# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 31 (596) ГОД XII 30 ЛІПЕНЯ 1967 г. ЦАНА 60 гр.




ЖНІВО

Фота Ул. Паўлючук




Нарву вызвалілі 22 ліпеня 1944 года. Тады ў Гайнаўцы абсталяваўся **Раённы камітэт Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі.** Вакол яго пачалі канцэнтравацца камуністы — перш за ўсё былыя члены КПЗБ.

Адным з іх быў **Антон Нікановіч** з вёскі Макаўка, член КПЗБ ад 1927 года, які паспрабаваў «смаку» санацыйнай турмы і ледзь не памёр у Картуз-Бярозе.

— Пад канец ліпеня, — успамінае ён, — з'явіўся я ў гайнаўскім Райкоме. Расказаў сакратару Петракову сваю аўтабіяграфію і выявіў гатоўнасць супрацоўнічаць з савецкай уладай.

Пасля некалькіх дзён прыехаў да яго дэпутат Вярхоўнага Савета таварыш Дзенісюк. Даверыў Нікановічу заснаванне нараўскага сельсавета. Нараўскі сельсавет дэпутатаў працоўных працаваў коратка. Пасля двух тыдняў савецкая ўлада з Гайнаўкі перанеслася ў Брэст.

— Я не ведаў, што рабіць, — гаворыць Нікановіч. — Шукаў нейкіх кантактаў. Наладжваў сувязь з былымі членамі КПЗБ. Даведаўся, што ў Бельску заснавалася ўжо польская ўлада. Якая яна? Чаго хоча? За што змагаецца? У мяне ж з даўнейшай польскай уладай быў даволі багаты рахунак неадплачаных крыўд.

У Бельску Нікановіч трапіў адразу на мітынг. Выступалі: стараста **Джэвецкі** і прадстаўнік Ваяводскай рады народовай **Антон Рошка.** З іх прамоў Нікановіч зразумеў, што новая польская ўлада не мае нічога агульнага з даўнейшай, панскай.

Антон Рошка тут жа выявіў ахвоту паехаць у Нарву.

— Будзем там устанаўляць гмінную народную ўладу, — гаварыў Нікановічу. — Трэба склікаць прадстаўнікоў усіх вёсак.

Даваенная нараўская гміна ахоплівала 50 вёсак, амаль палавіну цяперашняга Гайнаўскага павета. 9 жніўня 1944 года пасланцы разнеслі ва ўсе вёскі павесткі аб тым, каб 11 жніўня ў Нарву сабраліся прадстаўнікі паасобных вёсак. 10 жніўня адбыўся сход жыхароў Нарвы. Выступіў Антон Рошка. Растлумачыў насельніцтву мэты і праграму новай улады. Прысутныя выбралі сваіх прадстаўнікоў на гмінны сход.

Наступнага дня з усіх вёсак нараўскага наваколля, не гледзячы на жніво, пачалі збірацца людзі. Зноў выступаў Антон Рошка. Гаварыў ён аб ліпеньскім маніфесце ПКВН, аб панскай зямлі, што яна цяпер народная, аб фабрыках, што яны ўжо дзяржаўныя, аб школах, у якіх могуць вучыцца сялянскія дзеці.

Сходам кіраваў Нікановіч. Папрасіў сабраўшыхся, каб падавалі кандыдатаў у члены гміннай рады. Выбралі 18 чалавек. Тут жа рада ў тайным галасаванні ўстанавіла свой выканаўчы орган — Гмінную ўправу. Войтам стаў **Антон Нікановіч,** яго намеснікам — жыхар Нарвы **Язэп Жакевіч.** Так закончылася ў Нарве безуладдзе, якое працягвалася каля двух тыдняў.

Для падтрымкі гэтай улады была паклікана **грамадзянская міліцыя.** Камендантам яе ўстанавілі члена КПЗБ, вязня Картуз - Бярозы **Флорыяна Леўчука.**

У нараўскай гміне былі два панскія маёнткі: у вёсцы Пухлы і ў вёсцы Гожай.

Без землямераў, нават без... пісьмовага загаду вышэйшых улад — пры дапамозе крокаў «казы» і гаспадарскага вока людзі самастойна падзялілі іх і зямлю раздалі батракам і малазямельным. Дзялілі аднак не стыхійна. Раздзелам зямлі кіравалі члены ППР: **Васіль Ціханюк, Андрэй Чэрнякевіч, Якім Парфенюк, Канстанцін Ігнацюк і Аляксандр Марчук.**

— 3 снежня 1944 года, — успамінае Нікановіч, — адбылася ў Беластоку першая ваяводская канферэнцыя членаў ППР. Апрача мяне нараўскі гурток ППР прадстаўлялі: **Мікалай Галіцкі, Яфім Парфенюк і Васіль Ціханюк.** З баявой прамовай выступіў Галіцкі — наш сакратар. Далажыў ён ваяводскім партыйным уладам, што ў нараўскай гміне налічваецца ўжо 40 членаў ППР (у Беластоцкім ваяводстве было тады 626 членаў ППР), што падзелены маёнткі, што людзі цвёрда стаяць за новую ўладу. Эдварда Арлоўская нас пахваліла.

Так закончыўся ў Нарве 1944 год. **Другая яго палавіна (пасля вызвалення) прайшла спакойна. Але гэтая цішыня была дрэнным вестуном - буры, якая ў Нарве і ў наваколлі развязалася ў палавіне 1945 года.**

**В. Рудчык**




*

Які чалавек вуглаваты!
За ўсё на зямлі чапляецца —
За палі,
за хаты,
за сваты,
На цішыні і то спатыкаецца.

Чапляецца
за дзявочыя вусны,
За сынавы рucнаны,
Аб дух сусветны капусты
Спатыкаецца
чалавек вуглаваты.

Спатыкаецца аб прасторы,
Аб гнёзды,
дзе спяць птушаняты.
І нават за неба,
за зоры
Чапляецца чалавек вуглаваты.

**Янка Сіпакоў**



Размовы аб культурным жыцці

# ЯК КОСТЭК З ТАТАМ...

**ЗОЯ КАСТЭЦКАЯ ў апошніх днях чэрвеня вяла ўрок фізкультуры на лузе каля школы ў Астраўку (уласціва на дарозе паміж Астраўком і Піражкамі, бо ж тут збудавана школа, каб адняльнава служыла дзвюм вёскам). Потым у сонцы сядзелі мы на шырокай школьнай лесвіцы. Толькі звінела духмянае паветра, напоўненае сонцам і галасамі птушак. Запытала я настаўніцу Зоюпра яе дзейнасць у вёсцы Піражкі з тэатральным гуртком, які тут вядзе, сама будучы з гэтай жа вёскі.**

Зоя: Гэта маё захапленне я маю даўно. Дзе б я не была, усюды старалася арганізаваць гурток і весці яго. У Новай Волі, Коматаўцах, Крушынянах...

В. Л. — А тут?

— І тут ужо трэці год працую таксама.

— Як пачыналі?

— Было ў вёсцы крыху моладзі. Збіраліся. Жыву ў школе, але хадзіла да іх у вёску на рэпетыцыі. Цяпер яны ўжо адчулі патрэбу культурнай працы і ўжо прыходзяць на рэпетыцыі ў школу.

— Чаму апошнюю п'есу выбралі «Зямлю»?

— З рэпертуарам справа цяжкая. Усё абагранае. А гурток хацеў нечым пахваліцца. У Беларускім календары знайшлі «Зямлю». П'еса новая, невядомая. І спадабалася. Тут і праблема актуальная. Цяпер з вёскі ўцякаюць. «А давайце, — сказалі нашы, — пакажам, што ёсць такія, якія любяць зямлю».

— Абапіраецеся ў гуртку на моладзі?

— Усе маладыя. Была ў мінулым годзе адна жанчына **Анеля Прончык,** нават добра іграла. Але старэйшым не хапае энтузіязму на даўжэй. Хлопцы ў гуртку ў нас добрыя. З імі можна працаваць. Горш з дзяўчатамі. Многа пакінула вёску.

— Назавіце тых сваіх хлапцоў і дзяўчат з «Зямлі».

— **Віталі Фідзюкевіч, Уладзімір Алекша, Ян Філіповіч, Ягода Кузміцкая.**

— Як вы пачынаеце рыхтаваць п'есу?

— Раімся паміж сабой. Супольна. Як, хто і што мае іграць. Дыскутуем аб ролях.

— Тэатральны гурток — адзіная форма вашай працы?

— Маем вакальную групу. Спяваюць у нас **Уладзімір Карпач, Уладзімір Алекша — другі, Валя Алекша, Люд-**

**(Працяг на стар. 3)**

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментары • Весткі

## СВЕТ

### ШАРЫКАВЫЯ БОМБЫ

У В'етнаме ўжо знішчана 300 школ. Амерыканскія піраты вельмі часта прымяняюць шарыкавыя бомбы. Усё гэта — паводле іх слоў — прымяняецца выключна на ваенныя і прамысловыя аб'екты. Тым часам кожны чалавек разумее, што школы ніколі не былі ваеннымі аб'ектамі. А шарыкавыя бомбы? Вось у скарачэнні падаю апісанне гэтай бомбы. Гэта 2-метровы ўмяшчальнік, у якім змяшчаецца некалькі соцен штук шарыкавых бомбак велічынёй лімона. Умяшчальнік аўтаматычна адкрываецца і высыпаюцца з яго бомбы. Сценкі шарыкавых бомб пабудаваны з вельмі крохкага метала, у якім уплаўлены шраты. Калі разыходзіцца аб дзеянне бомбкі, дык яно зусім падобнае да блізкага стрэлу з паляўнічай зброі. Адным словам шарыкавыя бомбы абсалютна не надаюцца да разбурання, а выключна да атакаў на людзей.

### ВІЗІТЫ МАКНАМАРЫ

Ужо хутка будзе тры гады з таго часу, як амерыканскія агрэсары пачалі вялікую вайну супроць невялікага в'етнамскага народа. Нядаўна амерыканскі сакратар абароны Макнамара злажыў 9 візіт у Сайгоне. Напомнім некаторыя з іх ад пачатку. Першы візіт Макнамара нанёс у 1962 годзе. Тады амерыканская армія ў В'етнаме налічвала **9 тысяч** салдат, а называліся яны дарадчыкамі. У ліпені 1965 года амерыканскі сакратар абараны адбываў шостую паездку. Колькасць салдат тады выносіла **72 тысячы.** І ўрэшце дзевятая паездка ў ліпені г. г. У В'етнаме знаходзіцца **464 тысячы** амерыканскіх салдат. Але на гэтым не канец. Галоўнакамандуючы амерыканскімі вайскамі генерал Вестморленд заявіў, што ў 1969—1970 гадах колькасць амерыканскіх салдат павялічыцца да ліку 690 тысяч воінаў.

Змяняецца колькасць амерыканскіх салдат у В'етнаме, але не змяняецца сітуацыя, і з гэтага не хочуць здаць сабе справы правячыя кругі ў ЗША.

### МЕДАЛЬ З ДАЯНАМ

На Баварскім манетным двары з золата і серабра падрыхтавана памятную медаль у гонар міністра абароны Ізраіля Мошэ Даяна. У продажу каштуе яна ад 25 да 750 марак. З аднаго боку віднее партрэт міністра, а з другога — карта Сіная і раёнаў Заходняй Іарданіі акупаваных ізраільскім агрэсарам. Сэнс паўстаўшых у Заходняй Германіі сімпатый да ізраільскага ваякі не выклікае сумнення: мілітарыстычныя парывы Даяна з радні гітлераўскім.

### ЗАПАЛЬНЫЯ ПУНКТЫ

**Ізраіль** — 2,1 мільёнаў насельніцтва; 20 000 кв. км.; 120 жыхароў на кв. км. Ад паўстання дзяржавы ў 1949 годзе агрэсіўныя адносіны да акружаючых яго арабскіх краін. 5 чэрвеня атака ізраільскіх войск на ААР, Сірыю і Іарданію.

А. К.

## БССР

### БРЭСЦКАЯ, ОРДЭНА ЛЕНІНА

Ад 17 ліпеня г. г. выйшаў указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, у якім чытаем: «За актыўны ўдзел у партызанскім руху, мужнасць і стойкасць, праяўленыя працоўнымі Брэсцкай вобласці ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны, і за поспехі, дасягнутыя ў аднаўленні і развіцці народнай гаспадаркі, **узнагародзіць Брэсцкую вобласць** Беларускай ССР ордэнам Леніна».

### У ЮГАСЛАВІЮ

На гастролі ў Югаславію выехаў дзяржаўны ансамбль народнага танца беларускай ССР. Беларускія танцоры прыймуць удзел у традыцыйным нацыянальным свяце ў Скопле, а таксама выступяць у Бялградзе, Сараеве, Нові-Садзе і іншых гарадах. У праграме выступленняў ансамбля пераважна беларускі рэпертуар.

### ЭЛЕКТРЫФІКАЦЫЯ

Упраўленне энергетыкі і электрыфікацыі пры Савеце Міністраў БССР абавязалася сёлета ў асноўным **закончыць ў Беларусі сельскую электрыфікацыю.** На гэту мэту асігнавана 40 мільёнаў рублёў.

### ГАЗАВЫЯ ПЛІТЫ

У кватэрах рабочых і служачых саўгасаў і калгасаў Віцебшчыны ўсё часцей паяўляюцца газавыя пліты. Калектыў віцебскага трэста па газіфікацыі з пачатку другога года пяцігодкі ўстанавіў у вёсках і пасёлках вобласці каля 15 тысяч пліт.

### «АЛЕСЯ»

На Паркавай магістралі Мінска адкрыта новы спецыялізаваны магазін, якому далі назву «Алеся». Перш за ўсё тут могуць знайсці сабе вялікі выбар жанчыны. «Алеся» прапануе каля 500 назваў тканін з шэрсці і шоўку. Прадстаўлена тут таксама каля 1000 розных відаў прамысловых вырабаў ад модных сумак да прыгожых ювелірных рэчаў.

### МІНСК — БЕРЛІН

У ГДР прабывала больш 300 школьнікаў з шасці абласцей Беларусі. Юныя пасланцы Беларусі жылі ў сем'ях сваіх равеснікаў і таму мелі магчымасць добра пазнаёміцца з жыццём народа — сябра.

### ТЭХНІЧНАЯ АСНАШЧОНАСЦЬ

Тэхнічная аснашчонасць сельскай гаспадаркі БССР увялічылася. У сярэднім на адзін калгас і саўгас прыпадае 15 да 30 трактараў, 10 да 20 аўтамабіляў і да 7 збожжавых камбайнаў.

### ДВОЙЧЫ ЧЭМПІЁН

Спартсмен з Мінска **Аляксей Нікančыкаў** устанавіў у Манрэалю своеасаблівы рэкорд: ён першым са шпажыстаў стаў чэмпіёнам свету другі год запар. Другое месца ў турніры шпажыстаў заняў — алімпійскі чэмпіён, кіяўлянін Рыгор Крыс.

(к)

## ПОЛЬШЧА

### СВЯТА АДРАДЖЭННЯ

У суботу 22 ліпеня ўся краіна святкавала 23 гадавіну ўтварэння Народнай Польшчы. З гэтай нагоды Старшыня Рады Міністраў — Юзэф Цыранкевіч выдаў банкет, у якім прынялі ўдзел члены найвышэйшых партыйных і дзяржаўных улад, пасла, палітычныя дзеячы, генералы, прадстаўнікі замежнай Палоніі, працаўнікі навукі, культуры і друку. У час урачыстасці Цыранкевіч выступіў з кароткай прамовай, у якой, між іншым, заявіў:

«Думаючы аб нашай краіне, думаем адначасова аб в'етнамскім народзе, які гераічна змагаецца за сваю свабоду пры поўнай нашай салідарнасці і падтрымцы. Думаем аб агрэсіі Ізраіля — гэтай фарпосты імперыялізму на аравійскія краіны, якіх барацьба за незалежнасць цешыцца поўнай нашай падтрымкай. Думаем аб непагаснуўшых ачагах канфліктаў ва ўсім свеце, (...) як напрыклад, непагашаныя разгромам III Рэйху апетыты бонскіх мілітарыстаў.

Праз усё наша жыццё здаем экзамен чуйнасці і адказнасці. Грамадства здало гэты экзамен адабраючы польскую дзяржаўную рацыю прынятую нашай партыяй і Фронтам адзінства народа. Абавязак нашай чуйнасці ў адносінах да зачыншчыкаў вайны цесна спалучаецца з намаганнямі дзеля ўмацавання краіны, яе гаспадарчага і палітычнага развіцця, умацавання дружбы з Савецкім Саюзам і ўсімі сацыялістычнымі краінамі. Толькі такім чынам можна забяспечыць датагачасныя імпануючыя дасягненні нашага народа і далейшае яго развіццё. Мінулы год адзначыўся наяўным прагрэсам у дасягненні важных нацыянальных тэм, у нашай барацьбе за мір і сацыялізм. Свядомыя сваіх сіл і сіл нашых саюзнікаў гледзімо з верай ў сваю будучыню з пачуццём салідарнасці сіл прагрэсу і міру».

### 1138 ТРУПАЎ

Пададзена плён дарожных выпадкаў за першае паўгоддзе гэтага года. Было іх менавіта ў гэтым перыядзе 12 500, г. зн. на 1500 больш чымсьці ў гэтым самым часе мінулага года. У выпадках загінула 1138 асоб, а звыш 11 000 было раненых. Разбітых было каля 9 000 рознага тыпу машын. Вынікі аднаго чэрвеня ў гэтых адносінах наступныя: загінуўшых 288 асоб, параненых 2995, знішчаных машын 2200.

### З ПАПЕРАЙ ДРЭННА

Ад некалькіх гадоў перажываем цяжкасці звязаныя з недахопам паперы. Дзеля іх выпраўлення прадбачвалася, што ў гэтай пяцігодцы прадукцыя паперы ўзрасце на 160 тысяч тон і цэлюлозы — на 85 тысяч тон. Інвестыцыі аднак звязаныя з будовай новых заводаў прадукцыі паперы рэалізуюцца са значным спазненнем. У сувязі з тым праўдападобна план прадукцыі паперы на гэтую пяцігодку не будзе выкананы.

(п)

## ВАЯВОДСТВА

### СЕСІЯ ВРН

Напярэдадні Свята Адраджэння — 21 ліпеня адбылася ў Беластоку XII сесія Ваяводскай рады нарадовай. Сесія складалася з дзвюх частак: рабочай, на якой разгледжана некаторыя арганізацыйныя справы, і ўрачыстай, якая адбылася ў тэатры імя Ал. Вянгеркі.

У першай частцы сесіі разгледжана справу паклікання намесніка старшыні прэзідыума ВРН да сельскагаспадарчых спраў. Ваяводскія ўлады ўжо даўней звярнуліся да Рады Міністраў з прапановай паклікання ў нашым ваяводстве такой функцыі ў рамках акцыі дасканалення дзейнасці радаў нарадовых. Прапанова атрымала адабрэнне. Намеснікам старшыні ВРН да сельскагаспадарчых спраў на сесіі паклікана Уладзіміра Міхалюка, датагачаснага I сакратара партыі ў Бельску-Падляшскім.

У другой, урачыстай частцы сесіі ВРН з дакладам выступіў старшыня прэзідыума ВРН — Стэфан Жмійка. Пераналізаваў ён датагачасныя грамадскія, культурныя і гаспадарчыя дасягненні нашага ваяводства. Пасля даклада Стэфан Жмійка ўручыў заслужаным дзеячам культуры ўзнагароды прызнаныя за заслугі ў галіне папулярызацыі культуры на Беласточчыне.

### АКЦЫЯ ЭГО

У дзень свята Адраджэння 22 ліпеня ў Галдапі адбылося ўрачыстае заканчэнне гарцэрскай акцыі «ЭГО», якая працягвалася 3 гады. У рамках гэтай акцыі ў 1965—1967 гадах прабывала ў мазурскіх паветах (Элк, Голдап, Алецка) у 42 лагерах звыш 4 500 гарцэраў, якія дапамагалі пры ўборцы збожжа, рамонтах дарог, пасадках лесу, парадкаванні гарадоў і вёсак, пабудове спартыўных аб'ектаў і г. д. Пры гэтым усім гарцэрскія лагеры вялі шырокую культурную дзейнасць, навязваючы сардэчныя сувязі з жыхарамі Мазураў. Такім чынам акцыя «ЭГО» унесла істотны ўклад у далейшую інтэграцыю заходніх і паўночных земляў.

Ва ўрачыстасці заканчэння акцыі прынялі ўдзел члены экзекутывы партыі ў Галдапі на чале з I яе сакратаром Вітольдам Казёлам, а таксама прадстаўнікі партыйных улад з Беластока.

### МО І ГРАМАДСТВА

У гэтым годзе афіцэры міліцыі адбылі ўжо 494 сустрэчы з насельніцтвам нашага ваяводства. Сустрэчы арганізуюцца ў розных прадпрыемствах, школах, вёсках, а перад усім з шафёрамі. Падчас сустрэч афіцэры выяснялі шкоднасць парушання правілаў дарожнага руху.

### 16-ПАВЯРХОВЫ БУДЫНАК

Найвышэйшы будынак у Беластоку будзе мець 16 паверхаў і будзе змяшчаць звыш 500 памяшканняў. Пабудуе яго Беластоцкая спулдзельня мешканёва пры вуліцы Дзяржынскага.

(п)




**Niedziela 30.VII.**

9.45 PKF. 10.00 Dla młodych widzów: „Kiermasz przyjaźni" (Lipsk). 10.45 „Przypominamy, radzimy" — „Zbieramy drugi pokos siana". 10.55 „Tygrysy na pokładzie" — film fab. radz. 12.20 Dziennik. 12.30 „Nowi sąsiedzi", film („Koń, który mówi"). 12.55 Kino Przygoda: „Dziadek Kilian i ja" — film fab. CSRS. 14.25 „Przemiany". 14.55 Teatrzyk w Koszu: „Cudze piórka". 15.40 „Zawody ratowników — rep. tv. 16.20 „Dr Mateusz" — rep. film. („Ludzie i zdarzenia"). 16.35 „Marcello Mastroiani" („Portrety"). 17.35 „Parki Narodowe" — teleturniej. 18.25 „Wieczór z baletem angielskim" (cz. II). 19.00 „Słownik wyrazów obcych". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Sopockie Festiwale Piosenki". 21.05 „Karmazynowy pirat" — film fab. USA. 22.45 Niedziela Sportowa.

**Poniedziałek 31.VII.**

17.20 Program. 17.25 Dziennik. 17.30 Kabaret reklamowo-turystyczny. 17.50 „Chcę fruwać" — film tv radz. 18.15 „Spacerkiem po kinach". 18.45 Magazyn Postępu Technicznego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Siedem dni nad Polską" — rep. film. 20.25 Teatr TV: St. Wyspiański — „Legenda". 21.55 „Pamięć murów" — rep. film. 22.05 Dziennik.

**Wtorek 1.VIII.**

10.00 „Powrót" — film fab. pol. 17.20 Program. 17.25 Dziennik. 17.30 TELEFERIE: 1. „TV Kronika Podwórkowa", 2. „Przygody Robin Hooda" — film, 3. „Turniej o Żółtą Żyrafę". 18.50 TV Kurier Warszawski. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 L. Kruczkowski „Niemcy" — fragmenty dramatu. 20.20 Program muzyczny. 20.45 „Powrót" — film fab. pol. 22.10 Dziennik.

**Środa 2.VIII.**

10.00 „Pojedynek na wyspie" — film fab. franc. 16.45 Program. 16.50 PKF. 17.00 „Nie tylko dla pań". 17.20 Dziennik. 17.30 Sprawozdanie sportowe. 19.30 Dobranoc. 19.40 Dziennik. 20.15 „Olsztyńskie opony". 20.40 „Przeprawa" — film tv („Podziemny front"). 21.05 „Światowid". 21.40 „Gra w szachy" — film tv USA. 22.30 Dziennik.

**Czwartek 3.VIII.**

17:15 Program. 17.20 Dziennik. 17.30 Sprawozdanie sportowe. 19.30 Dobranoc. 19.40 Dziennik. 20.15 „Oszukany Pantalone" — film CSRS. 20.30 „Po szóstej". 21.10 Teatr Sensacji: A. Wydrzyński — „Tacuara" II odc. („Pajęczyna"). 22.20 Dziennik.

**Piątek 4.VIII.**

10.00 „Nokturn" — film fab. radz. 15.00 Sprawozdanie z meczu piłki nożnej (eliminacje przedolimpijskie) Polska — ZSRR. 17.20 Program. 17.25 Dziennik. 17.30 TELEFERIE: 1. „Liga Entuzjastów Wakacji", 2. „Przygody Robin Hooda" — film. 18.35 Wszechnica TV: „Francusko-polskie związki artystyczne". 19.05 TV Kurier Mazowiecki. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Sylwetki X Muzy" — Alessandro Blasetti. 20.45 „Refleksje". 21.15 „Nokturn" — film fab. radz. 22.35 Dziennik.

**Sobota 5.VIII.**

10.00 „Dowcipniś" — film fab. franc. 16.35 Program. 16.40 Program tygodnia. 16.55 Dziennik. 17.00 „Spotkania z przyrodą". 17.25 „Bonanza" — film. 18.15 „Tele-Echo". 18.55 „Gawędy wilków morskich". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.05 „Próba — śpiewa Bogdan Łazuka" — film pol. 20.30 „Pegaz". 21.15 Program estradowy z Pałacu Młodzieżowego Włókniarzy. 22.05 Dziennik. 22.20 Wiadomości sportowe. 22.35 „Dowcipniś" — film fab. franc.




**Piątek, 28 lipca**

9.00 Dziennik. 9.15 „Kalejdoskop muzyczny". 10.00 Dla uczniów. 14.35 Program. 14.40 Dziennik. 14.50 TV film dla dzieci. 15.10 Program o Brześciu. 16.00 „Sztafeta nowin". 17.00 Uroczyste otwarcie IV Spartakiady Narodów ZSRR. 20.30 Dziennik. 20.40 „Październik i młodzież". Program z Leningradu. 21.00 „Goście ze Szkocji". Koncert.

**Sobota, 29 lipca**

10.00 Tydzień Litewskiej SRR w Moskwie. 11.40 Program. 11.45 Dziennik. 11.50 Dla uczniów. 12.00 Dla przedszkolaków. Teatr lalek. 13.00 Tydzień Litewskiej SRR w Moskwie. 14.30 Kronika TV. 15.00 Piłka nożna. CSKA—„Dynamo" (Kijów). 16.45 „Świat dzisiejszy". 17.15 Tydzień Litewskiej SRR. 18.30 Dziennik. 19.00 „Zapora". Film TV. 20.30 „Turniej ciekawych".

**Niedziela, 30 lipca**

7.10 Program. 7.15 „Budzik". 7.45 „Raport „Aurory". Święto marynarki wojennej. 11.30 Spartakiada Narodów ZSRR. 12.15 Spektakl TV dla uczniów. 13.35 „Rewolucyjny pochód nauki". 13.55 Tydzień Litewskiej SRR w Moskwie. 14.30 „Kiosk muzyczny". 15.00 Dziennik. 15.10 Kronika Spartakiady Narodów ZSRR. 17.00 Klub filmowy. 18.00 Dziennik. 18.30 Panorama filmowa. V Moskiewski międzynarodowy festiwał filmowy. 19.45 TV teatr miniatur. 20.20 Program muzyczny. 20.30 Wiec na Placu Pałacowym w Leningradzie.

 



## ВЯЛІКІ ЧЫТАЛЬНІЦКІ КОНКУРС

### ШТО НОВАГА?

**З Гайнаўкі**

Павятовая і гарадская бібліятэка ў Гайнаўцы прыслала партыю купонаў (71 штука) конкурсу «Беларуская кніжка ў руках масавага чытача». Дзякуем ад сэрца і чакаем на далейшыя.

**З Бельска**

І калі ўжо напісалі мы вышэйшыя словы, на стале журналіста лёг свежы канверт, з Бельска. А ў ім 52 штукі купонаў таго ж самага конкурсу з Павятовай і гарадской бібліятэкі ў Бельску. З іх 49 сабраных у самым Бельску і 3 з Пілік.

### ШТО ХТО СКАЗАЎ?

**Лідзія Сцепанюк**
Палічна, Гайнаўскі павет
Год 27, настаўніца
Прачытала:
**«Магіла льва»** Я. Купалы
**«Крыніцы»** І. Шамякіна
**«Над Нёманам»** У. Дадзіёмава.

«Прачытаныя творы вельмі цікавыя. Асаблівую ўвагу звярнула я на твор Шамякіна «Крыніцы». Паказана ў ім жыццё сучаснай савецкай вёскі, яе праблемы, а перад усім праблема сучаснай школы, што мяне асабліва цікавіць».

**Марыя Вілюк**
Палічна, Гайнаўскі павет
Год 17, вучаніца
Прачытала:
**«На прасторах жыцця»** Я. Коласа
**«Бандароўна»** Я. Купалы
**«У дрымучых лясах»** З. Бядулі.

«Выбраныя творы мне вельмі спадабаліся. Адзін з іх «На прасторах жыцця» праўдзіва адлюстроўвае ідэалы і імкненні савецкай моладзі. Якуб Колас трапна паказаў моладзь з яе дарогай да асветы, ведаў, якія потым яна панясе ў самыя глухія куткі Беларусі».

### ЛАЗА

Кантрактацыя лазы, званай віклінаю, вельмі аплачваецца. З аднаго гектара «вікліны» можна мець каля дзесяці тысяч злотых чыстага даходу.

Кантрактацыя «вікліны» на Беласточчыне канцэнтруецца ў беларускіх паветах: у ваколіцы Гайнаўкі, Бельска і Заблудава. Агулам кантрактуюць гаспадары каля 250 гектараў «вікліны». «Вікліна» патрабуе мокрай, а нават балоцістай зямлі, якой у нашых ваколіцах не бракуе.

Кантрактацыя гэтай лазы ўсё яшчэ замалая ў параўнанні да патрэб на яе. Асабліва вялікія патрэбы на лазу, званай амерыканкаю. Кантрактацыя «амерыканкі» ўжо пачалася і варта, каб гаспадары, якія маюць адпаведныя для вырошчвання лазы землі, зацікавіліся магчымасцямі, так сказаць, заробку на лазе. (ся)

---

з вамі і пані Джонсан». Віцэ-прэзідэнт нягучна адказаў: «Выдатна».

А далей усё было, як у аперэце. О'Брайен павёў іх да машыны. Ярбара сеў ззаду шафёра, лэдзі Бэрд у сярэдзіне, а Ліндан справа. Але ў той момант, як Лары збіраўся зачыніць дзверцу за сенатарам, з другога боку з'явіўся хтосьці з членаў Нацыянальнага камітэта дэмакратычнай партыі з Нелі Конэлі. Пяцімесны «лінкольн», прызначаны для прэзідэнта, мог умясціць толькі мужа і жонку Кенедзі, губернатара, а таксама Келермана і Грыра са службы бяспекі. Жонцы губернатара месца не было, і дзеячу з Нацыянальнага камітэта здалося натуральным пасадзіць яе побач з Джонсанам, што ён і паспрабаваў зрабіць. Віцэ-прэзідэнт і пані Джонсан пацясніліся, каб даць месца пані Конэлі, і Ярбара, які сядзеў з процілеглага боку, быў сціснуты. Узрадаваўшыся тэтаму ён паспрабаваў было выйсці на тратуар. Але Лары быў у адчаі, што яму ўсё давядзецца пачынаць спачатку, і вырашыў ужыць фізічную сілу. Націснуўшы на шырокія плечы сенатара сваімі не менш масіўнымі клубамі, ён адчайна замахаў члену Нацыянальнага камітэта. Без усякага тлумачэння — і сапраўды, ён нічога не мог сказаць пераканаўчага — ён выцягнуў Нелі з машыны і павёў яе на першае сядзенне. Збянтэжаная жонка губернатара апынулася паміж паліцэйскім — вадзіцелем і агентам Руфусам Янгбладам.

Працяг будзе

# ВАРШАВА — АРЭШКАВУ

Калі ў рэдакцыю прышло запрашэнне ад варшаўскага ЗМС на адкрыццё Студыі сельскагаспадарчых ведаў у Арэшкаве, Гайнаўскага павета, неяк стала дзіўна а адначасова цікава. Бо чаму іменна Варшава, чаму ЗМС і чаму ў Арэшкаве?

Едзем у Арэшкава згодна з запрашэннем. Ля вёскі людзі жвава працуюць пры сушцы сена. На памяшканні святліцы-рамізы новая шыльда, якая абвяшчае, што іменна тут працуе Рабочы ўніверсітэт Саюза сацыялістычнай моладзі ў Варшаве студыя сельскагаспадарчых ведаў у Арэшкаве.

Па чарзе пачынаю расшыфроўваць пытанні, якія сабе паставіў загадзя. У тым дапамагаюць першыя (якіх я сустрэў) жыхары: **Мікалай Маліш** — кіраўнік мясцовай школы і адначасова кіраўнік студыі, **Міхал Мішчук** — гаспадар і адначасова кінааператар у студыі, потым далучаецца да нас старшыня ГРН у Арэшкаве — **Юрый Назарук.** Але героем для нас мае быць **Фёдар Галёнка** з Варшавы, які іменна тут на ўскраіне Белавежскай пушчы нарадзіўся і які не забывае пра родны кут.

Расказваюць аб намерах. Перш за ўсё плануецца тут пашырыць памяшканне святліцы. Ужо гатовая дакументацыя, ёсць 150 тысяч зл. патрэбных на рамонт. Справа толькі ў выканаўцы гэтай працы. Але тут жа затрымаўся вішнёвы «Фіят».

— Гэта дырэктар з Варшавы! — нехта прамовіў...

Фёдар Галёнка з'яўляецца дырэктарам найвялікшага рабочага ўніверсітэта ў Польшчы. Нядаўна ўніверсітэт адзначаў сваё пяцігоддзе. Хопіць сказаць, што адукацыю закончыла тут ужо 6500 чалавек, што працуе тут 250 працаўнікоў. Універсітэт вядзе разнастайную працу: ёсць курс ведаў аб Афрыцы, тэхнічна-асветны клуб для маладых праступнікаў, курсы замежных моваў, курсы для ўдзельнікаў ансамбля песні і танца «Мазовшэ», (у гэтым годзе ў Караліне ўручана матуральныя дыпломы) і іншыя.

Узначальванае Ф. Галёнкам кіраўніцтва ЗМС-аўскага ўніверсітэта пастанавіла сарганізаваць філіял на вёсцы, і гэта не ў вёсцы прыварштаўскай. Гэта не эксперымент, а проста перанясенне варшаўскіх спосабаў культурна-асветнай дзейнасці на вёску. Іменна арэшкаўская студыя з'яўляецца першай такога тыпу ў Польшчы. Праграма студыі будзе залежыць выключна ад мясцовых жыхароў і, безумоўна, будзе звязана з сельскагаспадарчай падрыхтоўкай і культурна-асветнай дзейнасцю, а таксама лекцыі на палітычныя тэмы. Адным словам, калі ўсё добра ўложыцца, дык месца сваё знойдзе тут кожны старэйшы, малады і малы. Выкладчыкамі студыі будуць мясцовыя спецыялісты, але гэта не абазначае, што не будуць прыязджаць цікавыя людзі з Беластока і Варшавы. Напэўна знойдуць тут прыемную атмасферу і сімпатыкаў нашы беларускія пісьменнікі і паэты. Усе звязаныя з гэтым фінансавыя справы аплочвае Варшаўскі рабочы ўніверсітэт.

Але не толькі важная справа арганізацыі студыі. Перш за ўсё Варшава абяспечыла Арэшкава ў вельмі неабходную рэч — два шырокатасьмовыя кіновыя апараты. Кошт гэтага — каля 90 тыс. злотых. І зноў давялося назіраць элегантнасць з боку Варшавы, таму што не толькі пераказалі апаратуру, але накіравалі спецыяліста, які праз некалькі дзён дапамагаў устанаўліваць апаратуру і адначасова прывучаў мясцовага кінамеханіка.

Міма рабочага дня і факту, што не было электрычанага святла, у студыю прышло многа людзей. Кожны па-свойму быў узрадаваны, усхваляваны і кожны думаў не толькі аб каляровым фільме, які зараз з'явіцца на экране, але і аб тым, што ўрэшце штосьці пачне тут рабіцца. На ўрачыстым адкрыцці з ўсіх твараў можна было прачытаць словы: Дзякуем Варшаве.

Цяжка апісваць дробязі, але неабходна ўспомніць, што зацікаўленне з боку павятовых улад амаль ніякае. Міма таго, што выслана запрашэнні да усіх асноўных зацікаўленых установ, на ўрачыстым адкрыцці студыі быў толькі інструктар Павятовага камітэта ПАРП. А нам жа павінна залежыць на тым, каб так цёпла вітаць гэтую свайго роду культурную дэгламерацыю Варшавы, каб іменна яна ішла ў нашы беластоцкія вёскі.

**А. Карпюк**




**Заняткі будуць адбывацца ў святліцы. Злева стаяць Мішчук, М. Маліш і кінамеханік з Варшавы.**

Фота аўтара

Рэч ідзе аб пажарах, справе, якая можа больш насільвацца ў летнія месяцы, тым не менш актуальнай з'яўляецца ўвесь год. Калі бачым або чытаем аб пажары, неяк аўтаматычна пачынаем думаць аб пашкадаваных людзях, жывёле, аб вогненнай стыхіі. І гэта зразумела. Аднак ёсць і другі бок гэтай справы не менш важны ўсім нам, як грамадству.

Статыстычныя даныя краіны гавораць нам, што за апошнія 5 гадоў згарэла або часткова асталося знішчанымі будынкаў на **3 мільярды зл.** Тры мільярды як абстракцыйны лік не надта многа гаворыць, і таму для паяснення падаем, што за гэтыя грошы **можна пабудаваць г. Ольштын,** або за гэтую суму можна было б **пабудаваць 50—60 спецыялістычных сучасных бальніц.**

А як лікі выглядаюць у Беластоцкім ваяводстве? Сітуацыя выглядае не лепш. За 8 год згарэла 10 тысяч бу-

# 50 бальніц пайшло з дымам

дынкаў, прыносячы страты 300 мільёнаў зл. Трэба дадаць, што колькасць пажараў павялічваецца. У 1966 годзе страты выносяць 39 мільёнаў зл., з чаго на індывідуальных гаспадароў прыпадае лік страт на 21 600 000 зл.

Прычыны пажараў розныя. 42 прац. з віны саміх карыстальнікаў, 16 прац ад няправільных комінаў печаў і т. п. а 11,4 ад грому (працэнты датычаць Беласточчыны). На нарадзе ў ваяводскай пракуратуры многа гаварылася аб тым, што ў справах супрацьпажарнай бяспекі неахайнымі з'яўляюцца не толькі карыстальнікі, але часам і мясцовыя ўлады. Улада паклікана на тое, каб не толькі выдаваць загады, але і праводзіць кантроль, прымяняць распараджэнні вышэйшых органаў, а тым часам справа выглядае не так. Не кантралююць, асабліва на вёсцы, электрычных інсталяцый, якія надта часта з'яўляюцца прычынай пажараў. Фактычна дык гэты кантроль бывае, але толькі да «лічніка», а далей бывае па-рознаму. Рознага тыпу «халтуршчыкі» робяць пад саламянымі стрэхамі інсталяцыі ў хлявах ці клунях, і гэта з'яўляецца вялікай небяспекай. Маецца многа, нават дзяржаўнага характару, будынкаў, дзе няма ні вядра, ні скрынкі з пяском, ні мятлы. Камінары, нават і тыя лепшыя, кантралююць выключна коміны, печы іх не цікавяць, а вядомым ёсць, што іменна часта прычынай пажараў з'яўляюцца печы.

Нядбайнасць рад нарадовых выяўляецца ў тым, што не робяць яны ніякіх крокаў у тым напрамку, каб зменшыць колькасць пажараў. Як гаварылася ў дакладзе пракуратара, адным з **горшых паветаў з'яўляецца Бельск.** Павятовая рада не падняла тут адпаведнай пастановы адносна інсталяцыі громаадводаў. Не задбалі пра будову пажарных басейнаў, і таму да гэтай пары **98 мясцовасцей Бельскага павета на выпадак пажару пазбаўлена вады.** Не навучылі мясцовых улад нават пажары, дзе напр. у Парцаве (у 1965 г.) пасля 15 мінут ужо не хапіла вады, а на агромны пажар у Красным Сяле ваду трэба было вазіць з адлегласці 4 км. Цікава, як доўга павятовыя ўлады будуць абыякава прыглядацца да гэтай сітуацыі?

Але ёсць справы, якія трэба вырашаць супольна, на якія няма ўказанняў. Адной з іх з'яўляецца справа кансервацыі громаадводаў на сялянскіх будынках. Зараз няма каму гэтым займацца, а справа на толькі істотная, што з часам драты іржавеюць або прарываюцца і замест адводзіць электрычную іскру з навальніцы, толькі прыцягаюць выклікаючы гэтым пажар. Гэта трэба ўладзіць ужо, не чакаючы на цэнтральныя ўказанні. **А. К.**

### ПРЫЯЦЕЛІ ПІШУЦЬ...

...што Таварыства прыяцеляў Белавежы і Клуб ЗМС у Гайнаўцы «Энтузіясты» разам арганізавалі спатканне з вядомым пісьменнікам **Станіславам Выгодскім,** які прачытаў сваім слухачам фрагмент неапублікаванага яшчэ твора «У поездзе».

Потым была цікавая літаратурная дыскусія. Пісьменнік наведаў белавежскі музей, парк і навуковыя інстытуты.

Рэдакцыя складае прыяцелям з Белавежы падзяку за інфармацыю і за прывітанні. (вл)



 




У Нью Дэлі адбываецца вялікі фестываль танца, у якім удзельнічаюць мастацкія калектывы розных нацый Індыі.



Дзяўчаты з Раджастану з каляровымі аздобамі на паўголым целе выконваюць свой нацыянальны танец.



Калектыў (у галаўных уборах) з Мадхія Прадэш інсцэніруе старыя народныя паданні.



Танец дзяўчат.



Перкусіст з племені сіддзі з Адра Прадэш падае рытм танца.



На здымку, зробленым як бы зверху, бачым танцавальны калектыў з Утар Прадэш.

## Сонечны напітак

Мадэру — янтарнае краплёнае віно — падарыў людзям выпадак... Адпраўляючыся ў паляванне з партугальскай калоніі на востраве Мадэйра ў далёкую Індыю, гандляры нагрузілі на верхнюю палубу некалькі дубовых бочак са звычайным віном. Трапічнае сонца і халаднаватыя ночы за доўгія месяцы плавання ператварылі віно ў выдатны краплёны напітак.

З таго часу мадэру ва ўсіх краінах прыгатаўляюць па класічнай прыроднай тэхналогіі: вытрымліваюць на працягу трох - пяці гадоў у бочках спачатку на сонечных пляцоўках, а затым — у падвалах.

Вучоныя Малдаўскага навукова-даследчага інстытута харчовай прамысловасці ўнеслі ў даўні працэс «мадэрызацыі» віна значную папраўку. Яны распрацавалі паскораную тэхналогію вытворчасці мадэры за адзін - паўтара месяца.

«Абстаноўка трапічнага сонца» мадэліруецца з дапамогай спецыяльнай аўтаматычнай апаратуры створанай у інстытуце.

Мадэра «па - малдаўску» атрымала на Усесаюзнай дэгустацыі ў Маскве вышэйшы бал.

## Вось гэта — шанцуе

Цяжка спадзявацца на ўдачу, калі яна магчымая толькі ў адным выпадку з пяці мільярдаў. Між тым, іменна такім шчасліўчыкам аказаўся англічанін Джон Брэй.

Брэй любіць вустрыц, але не часта можа дазволіць сабе ласавацца імі — вустрыцы дарагія. Калі нядаўна Брэй упершыню за два гады заказаў сабе ў лонданскім рэстаране вустрыц, у ракавіне адной з іх аказалася жамчужына.

Матэматыкі вылічылі, што ёсць толькі адзін шанц з мільярда на тое, каб знайсці жамчужыну ў англійскай вустрыцы, але ўжо зусім дзіўна, што два гады назад, калі Брэй у апошні раз перад гэтым ласаваўся вустрыцамі, з ім адбыўся дакладна такі ж выпадак.

## Радыёактыўны громаадвод

Фізікамі Югаславіі знойдзена новае прымяненне радыёактыўных ізатопаў. Для абароны ліній перадач электраэнергіі, сетак электрыфікаваных чыгунак і іншых аб'ектаў яны стварылі радыёактыўны громаадвод. Невялікая колькасць радыёактыўнага кобальта, змешчаная зверху на канцы громаадвода, іянізуе паветра, што садзейнічае разраду атмасфернай электрычнасці. Такі громаадвод надзейна забяспечвае абарону ў радыусе 200 метраў.




### НЕАБХОДНЫ ЭКСКУРС

Саюз эмацыянальнай непасрэднасці і замаруджанай аналітычнасці стварае той сплаў, які нараджае разведчыка, быстра і дакладна думаючага. Коля гэтым дарам валодаў. Відаць перадаўся ён яму ад яго бацькі Усевалада Уладзіміравіча Уладзімірава, які быў вядомы яго маці Аляксандры Мікалаеўне Гаўрылінай як Максім Максімавіч Ісаеў, а Гімлеру як фон Штырліц.

За тыя дваццаць год, што Ісаеў правёў нелегалам за граніцай, пакінуўшы радзіму на караблі, які вёз з Уладзівастока рэшткі белай гвардыі, думка яго зрабілася брытвеннай: ён прэпараваў падзеі, згадваў у іх перспектыву. Штырліц трымаў у сваёй бібліятэцы рымскіх і грэцкіх класікаў, кнігі па гісторыі інквізіцыі. Ён часам здзіўляўся дакладнаму паўтарэнню ў рэйху тых жа самых ходаў і зваротаў, якія рабілі тыраны Рыма. Калі на змену дэмакратыі прыходзіла асабістая ўлада і калі чалавек з трыбуны сената звяртаўся да дэпутатаў ад імя народа, упэўнены, што ён адзін толькі ведае, адчувае і прадбачвае яе, нацыі, імкненні, надзеі і спадзяванні, тады Штырліц зусім спакойна праводзіў для сябе аналогію з сучаснай Германіяй і ніколі не памыляўся ў перспектыўных рашэннях на тым ці іншым пытанні.

Ён дакладна акрэсліваў свае паводзіны: Гімлер баіцца сябраў, але ён хоць і не дае расці тым, хто гаворыць яму праўду, тым не менш верыць больш менавіта гэтай апошняй катэгорыі людзей. Таму Ісаеў, карыстаючыся сваім «партыйным стажам», дазваляў сабе выказваць думкі, якія ішлі не тое каб у разрэз з афіцыйнымі, але тым не менш у некаторай меры апазіцыйныя. Гэта не давала яму росту ў кар'еры, але затое яму верылі ўсе: ад Кальтэнбрунера і Шэленберга да парталейтара ў яго аддзеле гестапа.

У 1939 годзе яго сувязь сарвалася: сувязны быў расстраляны ў Маскве як англійскі шпіён. Ісаеў атрымаў чарговае павышэнне. Тры разы ён спрабаваў падставіцца пад камандзіроўку ў Маскву, але кожны раз гэта зрывалася. Потым ён пачуў аб плане «Барбаросса». Ён спрабаваў наладзіць сувязь праз нейтралаў, але ніхто яму з Масквы не адказаў. У сорак першым годзе ён быў адкамандзіраваны ў Токіо. Тут, сустрэўшыся на прыёме ў шведскім пасольстве з Рыхардам Зорге — яны былі знаёмы з дваццаць дзевятага года, — ён папярэдзіў яго аб тых планах нападзення на СССР, якія распрацоўваюцца ў германскім генштабе. Зорге наладзіў яму сустрэчу з саветнікам савецкага пасольства. Той ведаў аб прыездзе Штырліца. Ён даў яму фатаграфію. На Ісаева глядзелі Сашанька Гаўрыліна і хлопец — быццам бы ён сам, толькі ў дваццаць трэцім годзе. Гэта быў Аляксандр Ісаеў, яго сын. Ісаеў адчуў як нешта гарачае прыліпла да яго галавы.

— Хлопчык ведае, чый ён сын?

— Не.

— Сашанька ведае, хто я і дзе? Ёй паведамілі?

— Не.

— Калі вы знайшлі іх?

— У трыццаць дзевятым, калі хлопец прыйшоў за пашпартам.

Ісаеў успомніў Уладзівасток дваццаць другога года. Загад Дзержынскага — уцячы разам з белымі для таго, каб інфармаваць Маскву аб усіх загаворах, якія рыхтаваліся супраць рэспублікі; ён успомніў, як Сашанька праводзіла яго на прыстань. Асталася яна зусім адна, а ён нічога не мог змяніць: ён выконваў свой доўг...

Ісаеў напісаў ліст Сашаньцы:

«Каханне маё! Дзякую табе за тое, што ты была і ёсць. Дзякую табе за тое, што ёсць я — у маскоўскім варыянце. Дзякую табе за тое, што я ўсе гэтыя гады адчуваў цябе — у адным паветры, у адным свеце, у адным дні і ў адной са мною ночы. Я нічога не магу абяцаць табе, апрача аднаго — майго кахання. Я буду з табою, як быў. Свет кончыцца, калі побач са мною не будзе цябе. Максім».

Вечарам у цырульню да Колі прыйшоў лётчык, які вёў самалёт на Штырліцам. Знакам ён паказаў Колі, што хоча пагаліцца. На грудзях у Колі быў знак «Ост». Лётчык вырашыў, што цырульнік не разумее нямецкай мовы і, усміхнуўшыся да Колі, пахлопаў сябе па шчоках. Коля кіўнуў галавой.

— Масаж? — сказаў ён.

— О, я, масаж, — кіўнуў галавой лётчык і заплюшчыў вочы.

Следам за ім увайшоў бортмеханік і спытаў:

— Ты прышоў спаць ці галіцца?

— Я прышоў і спаць, і галіцца, — адказаў лётчык. — Пасля рэйсаў з гэтымі любімчыкамі Гімлера нервы ледзь трымаюцца. Не дай Бог, каб здарылася што - небудзь з самалётам...

— Чаму ты вырашыў, што фон Штырліц - любімчык райхфюрэра?

— Таму, што яго суправаджаў сюды начальнік палітычнай разведкі Шэленберг. І аднойчы я бачыў, як ён гава-

# ТРЫБУНА чытачоў

## МОДА ЦІ БЕСЦЫРЫМОННАСЦЬ?

У рэдакцыю прышло пісьмо ад маладога чалавека. Як сотні іншых, можа крыху наіўнае, але, як здаецца, закранаючае адну з істотных праблем сучаснасці. Малады чытач звяртае ўвагу на моду. Гаворыць аб тым, што вёска павінна раўняцца з горадам у гэтай галіне, і што многія людзі гэтага не разумеюць, і тут падае як прыклад, што вясковыя хлопцы не горшыя і таксама хочуць насіць доўгія валасы, а і дзяўчаты павінны насіць міні-спадніцы і т. д. У часе размоў на гэтыя тэмы, якія мне давялося весці з маладымі людзьмі, адчувалася адзін закід: з кароткай спаднічкі, доўгіх валасоў у хлопцаў, з публічнага цалавання з хлопцам смяюцца, а гэта ж **усё людскія справы.** Дык чаму так?

Не хачў павучаць нікога, пастараюся звярнуць толькі ўвагу на пэўныя справы, якіх не змаглі заўважыць мае субяседнікі. Перш за ўсё гэта тое, што **людскіх спраў ёсць шмат,** але ёсць пэўныя няпісаныя правілы, якія гавораць нам пступаць так, а не інакш. Вернемся да моды. Ці сапраўды насіць доўгія валасы — гэта мода? Па-мойму не зусім, бо калі б гэта была мода, дык насілі б доўгія валасы ўсе, або амаль усе. Доўгія валасы насілі калісьці, але калісьці гэтыя валасы пасавалі да, напрыклад, мальераўскіх убораў. А сёння? Сёння больш усяго, на маю думку, з'яўляюцца **выяўленнем духовай неахайнасці чалавека.** Падобна справа маецца і з уборамі, дзе іх бесцырымоннасць вяжацца з духовай бесцырымоннасцю.

Мода, зрэшты, датычыць не толькі прычоскі ці ўбораў, але і паводзін. Назіраецца, што многія жанчыны за кожную цану і ва ўсім хочуць раўняцца з мужчынамі. Хаця б напомніць такія як: курэнне папяросаў, піццё алкаголю і г. д. Жанчына ў гэтых справах не павінна імкнуцца раўняцца з мужчынаю, таму, што гэта перш за ўсё ёй самой уплывае не на карысць.

Але ёсць галіна, у якой жанчына можа раўняцца з мужчынаю, нават яго перавысіць гэта — талковасць. Не стану прыводзіць прыкладаў, таму што іх надта многа. Але і зноў пэўная заўвага. Даўней жанчына была дома прыгожай мімозай, а зараз? Зараз усё дома спачывае на жанчыне, дамамі загадваюць жанчыны, а гэта ж усё зношвае, нішчыць жанчыну. У імкненні да так званай моды часта чуюцца з жаночых вуснаў такія словы: я не хачу, каб мяне шанавалі, хачу, каб мяне кахаў. Мне здаецца, што трэба, каб і **кахаў, і шанаваў.**

У святле прыведзеных вышэй сказаў здаецца, што гэтая нібы мода часта стаецца бесцырымоннасцю, якая знішчае сапраўды прыгожае і жыццерадаснае. А як вы думаеце?

**А. Лабановіч**

## КЛУБЫ І ГУРТКІ

У Бельскім павеце ў 1965 годзе было 17 клубаў і 32 мастацкія гурткі, у 1966 г. было 22 клубы і 41 мастацкі гурток, а ў гэтым годзе налічваецца 26 клубаў і 49 мастацкіх гурткоў — амаль удвая больш. Як відаць, мастацкі рух значна выпярэджвае адпаведныя магчымасці для развіцця яго, бо трэба ведаць, што рэдка ў якой вёсцы існуе па два і больш мастацкіх гурткоў. (ся)

## КУРС МАТАЦЫКЛІСТАЎ

Як на Гайнаўшчыне так і на Беласточчыне кожны год павялічваецца колькасць матацыклістаў. Кожны вясковы матацыкліст карыстаецца вялікай пашанай. Апошнім часам праводзіўся курс у Круглым Ляску (Беластоцкі павет), які налічваў 34 асобы. Спасярод гэтых 34 асоб большасць вясковай моладзі з навакольных вёсак. Заняткі праводзіў тав. Анішчук, выкладчык з павятовага аддзела камунікацыі ў Беластоку. Усе 34 слухачы закончылі 1. VII. 1967 г. курс з дыпломамі.

**«Чарот»**

## КАНТРАКТАЦЫЯ

ГРН у Крынках, Сакольскага павета, настойліва змагаецца за выкананне кантрактацыі збожжа. Ужо на 1967/68 год перавыканана план кантрактацыі жыта і іншых збожжавых раслін. У мінулым годзе, напрыклад, на план 70 гектараў мясцовыя гаспадары законтрактавалі 130 гектараў. Аднак горш справа выглядае з пшаніцай. На план 5 гектараў не выканана ніводнага. Падобна справа будзе выглядаць і ў гэтым годзе. Прычыны? Даволі простыя і вядома хіба планавікам, што на тэрыторыі крынкаўскай ГРН на 10 гаспадароў адзін сее пшаніцу і то толькі для сваіх патрэб. Сёлеташні сельскагаспадарчы перапіс паказаў, што, напрыклад, у Язерскіх на 19 гаспадароў толькі адзін пасеяў пшаніцу.

Падобна справа маецца і з сіласамі. Хтосьці запланаваў, іншы выдаў загад, і так узніклі ў крынкаўскай ГРН сіласы. Але і зноў кожнаму (хто хоча) вядома, што ў ваколіцах Крынак такая зямля, што не растуць тыя расліны, якія можна ў сіласах квасіць. Зараз іх ужываецца для іншых мэт.

Усе ведаюць, што і ў гэтым годзе план кантрактацыі пшаніцы не будзе выкананы. Дык нашто ствараць фікцыйныя планы? (ак)

## ТЭАРЭТЫЧНЫЯ ВЕДЫ І ПРАКТЫКА

Аб добрай працы СПР у Орлі, Бельскага павета, мы ўжо пісалі. Вучні тут праходзяць не толькі тэарэтычную але і практычную падрыхтоўку. У адзін летні дзень мы засталі вучняў, калі яны працавалі пры агароджванні драцяной сеткай школьнага пляца. Зрэшты, арлянская СПР з'яўляецца свайго роду малой калектыўнай гаспадаркай, а вучні працуюць пільна і ахвотна.

**На здымку: Вучні у час перарэзвання сеткі.**
Тэкст і фота (ак)

## ЧЫТАЧЫ ПЫТАЮЦЬ — «НІВА» АДКАЗВАЕ

**ПЫТАННЕ: Я жыву на гаспадарцы жонкі, якая памерла ў 1966 г. Пасынак мой жыве ў Беластоку больш дзесяці год і працуе ў фабрыцы тэхнікам-механікам. Пасля смерці маці ён рабіў такія захады ў судзе, каб атрымаць гаспадарку. Ён пагражае, што выкіне мяне з гаспадаркі, на якой я працую ўжо блізка 20 год і якую я пасля вайны паставіў на ногі. Я чуў, што тыя, хто не працуе на гаспадарцы, не маюць да яе права, а ён гаворыць, што праз суд ён права да гаспадаркі можа атрымаць. Адкажы, Дарагая Рэдакцыя «Ніва», ці можа гэтак быць?**

**АДКАЗ:** Пасынак Ваш ніякага права да гаспадаркі не мае. Яму не прыслугоўвае права нават да часткі гаспадаркі і ён не можа атрымаць сплат. Праўда — новы цывільны кодэкс (арт. 1059 § 2) прадбачыць, што калі сярод наследнікаў няма такіх, якія працуюць на гаспадарцы, або з'яўляюцца членамі сельскагаспадарчага вытворчага кааператыву — наследнік, які не працуе ў сельскай гаспадарцы можа на працягу шасці месяцаў ад смерці завяшчальніка (у гэтым выпадку Вашай жонкі) злажыць перад судом або натарыусам заяву аб гатоўнасці вядзення гаспадаркі. Можна дадумвацца, што ў Вашым выпадку пасынак гэткую заяву злажыў. Аднак гэтая заява мела б значэнне толькі ў тым выпадку, калі б не было наследніка, які займаецца сельскай гаспадаркай. У Вашым выпадку Вы, як муж і гаспадар, з'яўляецеся гэткім наследнікам. І таму заява якую злажыў пасынак перад судом або натарыусам, у гэтым выпадку не мае ніякага значэння.

**Школа ў Сёмяноўцы.**
Фота: Я. Цялушэцкі

## «СТОНКА» АТАКУЕ

Столькі «стонкі» ў полі, як у гэтым годзе, мы яшчэ ніколі не мелі. Пагражае нам тое, што цэлыя палеткі бульбы будуць знішчаны гэтай «саранчою».

Сёлета закуплена вясковым крамам каля трох з паловаю тон розных хімічных сродкаў для знішчэння «стонкі». Гэта: **«Дзітакс», «Трытакс», «Азотакс»** — у выглядзе парашку і вадзяністы. Для параўнання можна дадаць, што ў мінулым годзе для вынішчэння «стонкі» было ўжыта каля дзвюх тон хімічных сродкаў.

Хімічныя сродкі трэба распыльваць на бульбяных палетках пры дапамозе спецыяльнай апаратуры. Пры вясковых ГС-ах існуюць пазычальні гэтакай апаратуры. Плата за пазычанне невялікая — штосьці каля залатоўкі за суткі.

Адначасова трэба знішчаць заразу на бульбе. Найлепшыя вынікі дае апырскванне бульбы сродкамі, званымі, **мядзянамі.** Але, перад усім, трэба вынішчыць «стонку»; зараза бульбы, ад якой гніе бульба, усё ж такі менш грозная. А там, дзе пяройдзе маса «стонкі», застаецца голае поле... (с)

# Сардэчныя ТАЙНЫ

## ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Маю 16 год. Прайшло ўжо два тыдні як я кахаю Геніка. Ён старэйшы ад мяне на 2 гады. Калі мы хадзілі на забаву, ён гуляў толькі са мною. Адводзіў мяне дамоў, цалаваў і гаварыў, што ажэніцца са мной, бо пакахаў мяне на ўсё жыццё. Сёмага гэтага месяца ў нас быў фэст. Генік пазнаёміўся з дзяўчынай з суседняй вёскі, а пра мяне забыў. Я хутка прыйшла з забавы, бо не магла глядзець, як ён гуляе з гэтай дзяўчынай. Цэлую ноч не спала, плакала. Нікога ўжо ў жыцці не пакахаю так, як Геніка. Сэрцайка, што рабіць? Ці пры сустрэчы з Генікам сказаць яму аб гэтым, што я не магу жыць без яго, ці мо напісаць пісьмо да гэтай дзяўчыны, каб яна з ім больш не сустракалася? Сама не ведаю. Парай.

**Марыся з Бельскага**
павета

**Дарагая Марыся!**

Не раю табе гаварыць аб гэтым Геніку, а тым больш пісаць пісьмо да дзяўчыны, з якою пазнаёміўся Генік. Павер мне, што гэта не апошняе тваё каханне. Напэўна яшчэ не аднаго хлопца сустрэнеш, які табе спадабаецца, якога пакахаеш. Каханне ў тваіх гадах не трывалае. А лякарствам на гэта — зацікавіцца другім хлопцам, або зайсці ў бібліятэку і пазычыць добрую кніжку, каб замест плакаць начамі — чытаць кніжку. Паспрабуй, напэўна хутка забудзеш аб каханні.

**Усяго добрага.**
**СЭРЦАЙКА**

---

рыў з райхфюрэрам. Яны гаварылі як роўныя.

Пілот быў малады, і яму падабалася быць асвядомленым. Людзі вопытныя гэту сваю асвядомленасць — неабходную ці выпадковую — скрываюць. Маладыя, толькі сутыкнуўшыся з жыццём «вялікіх», наадварот, не могуць не фарсануць сваёй асвядомленасцю.

— У якім ён чыне?

Лётчык не ведаў гэтага дакладна і зноў па маладосці сваёй адказаў:

— Ён афіцэр «СС» з даваенным стажам.

— Паехаў да Франка? У Вавель?

— Не, ён спыніўся ў «французскім» атэлі.

— Калі назад?

— Праз дзень-два. Мне загадана чакаць яго тут.

Коля пагаліў бортмеханіка, убачыў, што ў цырульню набілася шмат народу, непрыкметна разануў сабе палец брытвай і пабег у медпункт. Пасля медпункта ён кінуўся да Віхра — паведаміць аб прыездзе такой важнай фігуры з ведамства Гімлера.

Віхор неадкладна звязаўся з Сівым і папрасіў яго праз яго людзей у «Французскай» гасцініцы даведацца аб нейкім фон Штырліцу ўсё, што можна будзе даведацца, а асабліва маршруты паездак, хто яго суправаджае, на чым ездзіць, калі ўстае і дзе абедае.

**Працяг будзе**

# КІНО

## ПРАГРАМА

**на 1—6. VIII. 1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

,,Macario'' (brazylijski), 1—2. ,,Kanciarze i spółka akcyjna'' (franc.), 3—4. ,,Tygrys lubi świeże mięso'' (franc.), 5—6.

**Кляшчэлі**

,,Więźniowie nocy'' (rumuński), 1—2. ,,Pluton 317'' (franc.), 3—4. ,,Ściana czarownic'' (polski), 5—6.

**Дубіны**

,,Popioły'' (polski), I i II s. 5—6.

**Нараўка**

,,Starsza pani bez godności'' (franc.), ,,Gangster i urzędnik'' (USA), 2—6.

**Нарва**

,,Cierpkie głogi'' (polski), ,,Długość pocałunku 90'' (czeski), 2—6.

**Дубічы Царкоўныя**

,,Strzelby Apaczów'' (USA), ,,Nasz wspólny przyjaciel'' (radz.), 2—6.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

,,Przed nami zakręt'' (radz.), ,,Tytoń'' (bułg.), 2—6.

**Орля**

,,Chudy i inni'' (polski), ,,Szkarłatne godło odwagi'' (USA), 2—6.

**Райск**

,,Bokser'' (polski), ,,Samotna'' (radziecki), 2—6.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

,,Grunt to zdrowie'' (franc.), ,,Miejsce dla jednego'' (polski), 1—4.

**Міхалова**

,,Wszystko dla psów (angl.), 1—2. ,,Tata, mama, córka i zięć'' (radz.), 3—4. ,,Gorące lato'' (jugosł.), 5—6.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

,,Piąty wydział'' (czeski), 1—2. ,,Pluton 317'' (franc.), 3—4. ,,Ściana czarownic'' (polski), 5—6.

**Шудзялава**

,,Okno na lunapark'' (włoski), ,,Piekło i niebo'' (polski), 2—6.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

,,Kochajmy syrenki'' (polski), ,,Tomcio Paluch'' (USA), 2—6.

**Новы Двор**

,,Trzy kroki po ziemi'' (polski) 5—6.

**Ліпск**

,,Sprawa Barnaby Kosa'' (czeski), ,,Tak'' (węgierski), 5—6.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK ,,Ruch'' Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych ,,Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ ,,Ars Polona'' Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

У сярэдзіне самага лета прыехалі да Трэпаўкі зямельныя інжынеры - геадэты. Прышлі да солтыса і сказалі, каб склікаў сход: — Будзем праводзіць навуковую клясыфікацыю гаспадарскіх грунтаў.

Для солтыса Лепятушкі ад гэтых слоў аж дух заняло.

Кажа: — Пагляньце панове добра ў паперах, ці не памылілі вёскі?

— А чаму вы так гаворыце, солтыс?

— Бо ў нас ужо была адзін раз грамадская клясыфікацыя і тры разы рабілі навуковую клясыфікацыю. — Адну рабіў інжынер Плётко і так наплёў, што другі раз мусеў усё перарабляць Крывы Ігнат... — Але відна і ў гэтага інжынера была крывая лента. Людзі скардзіліся. А трэцюю клясыфікацыю рабіў пан інжынер Калібер і тожа ся-

# НАВУКОВАЯ КЛЯСЫФІКАЦЫЯ

род летка. — Цераз засеянае поле вадзіў з сабою цэлую камісію. Колькі яны дабра намарнавалі. — А добра нам ніхто не зрабіў...

— Мы ведаем пра гэта. — У нас жа ёсць усе планы... — рашуча сказаў старшы інжынер...

— А я думаў, што мо' дзе прапалі, бо падумайце вы самі ўжо 5 раз будзеце праводзіць гэтую — навуковую клясыфікацыю, то нават шкада дзяржаўных грошай!

— Але мы зробім справядлівую...

— І тыя ўсе рабілі справядліва, а вось як выйшла! — Што нават узгоркі пайшлі ў IV клас... Так яны нас навучылі, што будзем памятаць цэлае жыццё... — застагнаў солтыс накладаючы шапку...

— Не бядуйце, солтыс, цяпер мы ўсё направім, — пацешыў старшы інжынер.

Солтыс заказуючы на сход, узбударажыў цэлую Трэпаўку. Зараз пасходзіліся ўсе людзі, і выбралі 6 найлепшых гаспадароў у камісію...

Зараз на другі дзень вясковая камісія пайшла з інжынерамі ў поле. Праз даспяваючае жыта, праз аўсы, ячмені, пацягнулі людзі, пакідаючы за сабою сцежкі — дарожкі. І зноў пачалі капаць ямкі і перагортваць рукамі жоўты пясочак...

— Бачыце, якое марнатраўства!? Паказаў Стась на зялёны хвайнячок. Гэта гаспадар меў тут IV клас, але не мог выплаціць падатку і ўзяў лесам засеяў.

— Абавязкова тут трэба направіць пакрыўджаных — звярнуўся Ясько да інжынераў.

— Што вы, людзі, — адазваўся інжынер. — Пабачце якое ў суседа вырасла жыта.

— Але колькі ён усадзіў сюды мінеральных угнаенняў?!

— А зямля ж патрабуе агратэхнічнай управы.

— Так, то так, пане інжынер, — скрывіўся Стась, — але выглядае то так што на мінеральных угнаеннях на нашых палях растуць лепшыя клясы!

Цётка Мальвіна

# НІЎКА

### ДЛЯ КЕМЛІВЫХ

На першым малюнку вы бачыце прадаўшчыка, да якога падышла Марыся Мадніцкая. На другім — Марыся, выбраўшы, урэшце, патрэбную рэч, ідзе ў наступны магазін. Адкажыце на пытанне: «Што купіла Марыся?»

### ПРЫДУМАЎ

Сцяпан быў у горадзе і вырашыў сфатаграфавацца на памяць. Але гарнітур у яго паняўся і ён зайшоў спачатку ў майстэрню, дзе можна было яго адпрасаваць.

— Колькі гэта будзе каштаваць? — пацікавіўся ён.

— 50 злотых.

— Вазьміце 25 і адпрасуйце мне толькі правую палавіну. Я буду фатаграфавацца ў профіль.

### НЕ АД ЛЮБВІ

— Янка, вяртаю табе абручальны пярсцёнак. Не пайду за цябе. Другі мне падабаецца.

— Хто ж ён? — адразу спытаў жаніх.

— А табе навошта гэта ведаць? — здзівілася нявеста.

— Я павінен ведаць, каму прадаць гэты пярсцёнак, — адказаў хлапец.

### ДВАЙНАЯ КАРЫСЦЬ

Спыталі ў селяніна, чаму, купляючы дровы, ён выбраў толькі сукаватыя палені.

— А таму, — адказаў той, — што ад іх я нагрэюся двойчы: спачатку, калі буду калоць, а потым — калі кіну ў печ.

### ПЕРАКАНАЎ

Два аднавяскоўцы паехалі падарожнічаць. Каб не купляць два білеты, адзін залез у мяшок, а другі засунуў яго пад сядзенне.

Праходзіў кантралёр.

— Ваш білет!

— Калі ласка, — адказаў.

— А што ў вас у мяшку?

— Жалеза.

Каб праверыць, кантралёр пнуў мяшок нагой. З-пад сядзення пачулася:

— Дзынь... дзынь...

### ЦЯПЕР МОЖНА...

Муж: — Чукілеву ўрачы прызначылі дыету.

Жонка: — Цяпер мы абавязкова папросім яго ў госці.

### РАСКАЯННЕ

Селянін трапіў у рай і прадстаў перад святым Пятром.

— Як дабраўся? — спытаў святы.

— Добра. Толькі холадна было.

— Тады я дам табе чаго-небудзь моцнага. Есць піва, якое хочаш: цёплае ці халоднае?

— Цёплае.

— Пачакай, пайду падагрэю.

Селянін чакаў, чакаў і... прачнуўся.

— Чорт яго пабяры! І трэба ж было захацець цёплага. Папрасіў бы халоднага — напэўна б выпіў.

— Ну, відома, твая мама і тут нас удваіх не пакіне...

— Што ты сабе думаеш?! Спіною да начальства стаў...

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Ані Харытонюк з Цялушак.Бельскага павета змяшчаем песню п. з.

# POWRÓCISZ TU

Słowa: Janusz Kondratowicz — Muzyka: Piotr Figiel

Gdy los cię rzu-ci gdzieś w da-le-ki świat -, gdy
zgubisz szczęście swe i poznasz życia smak zatęsknisz do rodzinnych
stron i wrócisz tu, wrócisz gdzie twój dom. Po-wró-cisz
tu -, gdzie nadwi-ślański brzeg, po-wrócisz tu -, z za siednilu
gór i rzek -, po-wró-cisz tu -, gdzie pło-nie
słońcem wrzos i głóg, gdzie cie-nie brzóz -, plach ma-zo-
-wieckich dróg. Po-wrócisz tu -, gdzie wierzby pośród pól, po-wrócisz
tu -, gdzie klucze bia-łych chmur! Po-wrócisz tu -, by szukać
swo-ich dróg i gwiazd, by słu-chać znów jak wio-sną
śpie-wa las, po-wró-cisz tu

Pod niebem wielkich miast swój zgubisz ślad
osiągniesz to, co chcesz — za rok, za parę lat.
Lecz gdy zdobędziesz wszystko już
z dalekich stron kiedyś wrócisz tu.

Refren:

Powrócisz tu, gdzie nadwiślański brzeg itd.

# КУРЁЗЫ

### СТРАХАВАННЕ АД НЕШЧАСЛІВАГА КАХАННЯ

Найбольш фантастычныя віды страхавання прыдумалі англічане і амерыканцы. Там не толькі кіназоркі страхуюць бюсты і вейкі, але музыканты страхуюць таксама свае рукі. Сустракаюцца і больш цікавыя віды страхавання. Напрыклад, адна жыхарка Лондана страхуецца ад штучнага спадарожніка, калі б адзін з іх раптам упаў на зямлю. Каля дзвюхсот англічан застрахаваны ад нешчаслівага кахання. Прытым, чым страхаваны маладзейшы, тым ён плаціць больш высокі ўклад. Страхаванне ад нешчаслівага кахання ў Амерыцы каштуе 60 цэнтаў у тыдзень. Ашуканы ці пакінутая атрымлівае аднаразовую кампенсацыю, а ў некаторых выпадках нешта накшталт месячнай пенсіі на працягу трох месяцаў. Адзін амерыканец, якога кінула жонка, уцёкшы ад мужа з каханкам, застрахаваўся на выпадак... вяртання жонкі. Іншы — на выпадак нараджэння дачкі: ужо вельмі яму хацелася мець сына. Адзін песіміст застрахаваўся ад беднасці. Калі ён збанкрутуе, страхавое таварыства павінна будзе даць яму бясплатныя абеды два разы ў дзень у найлепшых рэстаранах горада.

### АХ, ГЭТЫЯ ЖОНКІ!

Па дадзеных нью-йоркскай паліцыі, толькі ў 1965 годзе ў паліцэйскія ўчасткі паступіла 17 000 заяў ад жанчын, якія шукалі сваіх мужоў, якія зніклі і не падавалі ніякіх прыкмет жыцця. І толькі 13 мужчын шукалі сваіх прапаўшых жонак.

# СМЯЮЦЦА З НАМІ

Пакуль адны дамаўляліся, як яго пакараць, другія за тое ж самае яго ўзнагародзілі.